

Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№73—74 (1090—91) 19 красавіка 1995 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 533805 экз. Кошт у розніцу — 450 руб.



* ФАКТЫ * АРГУМЕНТЫ * КОММЕНТАРИИ * СОБЫТИЯ *

## Вкратце

***Вопрос о разделе Черноморского флота будет основным на начавшемся вчера очередном раунде российско-украинских переговоров.***

Кроме того, Украина готова подписать с Россией соглашение о правовой помощи. Оно "в значительной степени развяжет руки правоохранительным органам двух стран в совместной борьбе с преступностью".

❑

***Россия значительно расширит экспорт оружия в ближайшее время, заявил председатель Госкомитета России по оборонным отраслям промышленности Виктор Глухих.***

В настоящее время, по данным В.Глухих, Россия занимает лишь 5% мирового рынка оружия против 65% у США.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 18 апреля вырос на 2 пункта по сравнению с торгами в понедельник и составил 5064 рубля за доллар.***

❑

## Газовая атака на кандидата в депутаты

***При иных обстоятельствах это происшествие в Бобруйске вряд ли бы привлекло массовое внимание: ведь, слава Богу, никого не убили.***

Просто поздним вечером в квартиру В.Зинченко, прежде директора завода, а ныне безработного, позвонил с лестничной площадки неизвестный, а когда ему открыли дверь, выстрелил из газового пистолета и скрылся. Но суть дела-то в том, что В.Зинченко зарегистрирован кандидатом в депутаты Верховного Совета. Сейчас следствие выясняет, связан ли выстрел с предвыборной борьбой.

## Предприятия не в восторге, но инвалиды довольны

***Конкретный шаг по обеспечению жильем инвалидов Великой Отечественной войны и приравненных к ним лиц сделал Могилевский областной Совет народных депутатов.***

На своей последней сессии он решил отчислять один процент от прибыли хозрасчетных предприятий на эти цели. За год набежит 20—40 миллиардов рублей — примерно половина того, что выделяется на жилищное строительство из местного бюджета.

Конечно, предприятия восприняли еще один "оброк", мягко говоря, без особого энтузиазма. Зато довольны настрадавшиеся в тесноте инвалиды.

**Николай ТОЛСТИК.**

агенцтва Грацуова

**Курсы обмена наличных валют в коммерческих банках на 18 апреля 1995 г.**
тел./факс (0172) 325-105

| НАИМЕНОВАНИЕ БАНКА | Доллар США | | Немецкая марка | | Российск. рубль | | Телефоны для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | |
| 1. ФК "ВЕРОНИКА" *** | 11490 | 11750 | 8200 | 8500 | 2.22 | 2.30 | 531-504 |
| 2. БЕЛАРУСБАНК | 11454* | 11716* | 8180* | 8420* | 2.20* | 2.60* | 239-250 |
| 3. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. операц. управ.) | 11500* | 11850 | 8100* | 8500 | 1.80 | 2.40 | 067 |
| 4. НАРОДНЫЙ БАНК | 11450* | 11750 | 8100* | 8400 | 2.20 | 2.30 | 238-610 |
| 5. "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11400 | 11800 | 8000 | 8600 | 2.10 | 2.30 | 293-095 |
| 6. СБЕРБАНК | 11300 | 11750 | 7850 | 8300 | 1.80 | 2.40 | 067 |
| 7. "ОЛИМП" | 11400* | 11700* | 7980* | 8357* | 2.30* | 2.40 2.45** | 508-556 |
| 8. "ДУКАТ" | 11450* | 11800* | 8000* | 8500* | 2.20* | 2.60* | 201-063 |
| 9. "БЕЛБАЛТИЯ" | 11500* | 11810 | 8150* | 8300 | 2.10 | 2.30 | |
| 10. ПРИОРБАНК | 11350 11400** | 11700 | 8100 8150** | 8360 | 1.50 | 2.50 | 690-964 067 |
| 11. МИЛАВИЦА филиал АКБ "ДУКАТ" | 11450* | 11800 | 8000 | 8600 | 1.90 | 2.30 | 372-825 |
| 12. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция) | 11450 | 11750 | 8100 8050** | 8400 | 2.00 | 2.30 | |
| 13. ВЕЛЕС филиал АКБ "ДУКАТ" | 11500* | 11750 | 8100 8200** | 8400 | | | |
| 14. БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11450* | 11750 | 8180* | 8400 | 2.00 | 2.35 | 267-022 |
| 15. филиал № 1 банка "ОЛИМП" | 11500* | 11700* | 8100* | 8300* | | | 291-646 067 |
| 16. "ЕВРОПЕЙСКИЙ" | 11500* | 11750* | 8150* | 8400* | 2.10* | 2.30* | 270-166 |
| 17. "НЕМИГА" филиал АКБ "ДУКАТ" | 11450* | 11800 | 8000* | 8400 | 1.90 | 2.35 | 769-771 |
| 18. МАГНАТБАНК ф-л 001 | 11500* | 11800* | 8100* | 8300* | 2.10 | 2.29* | |
| 19. ЭЛИТБАНК | 11550 | 11900 | 8100 | 8500 | 1.90 | 2.40 | 313-050 |
| 20. "ПОИСК" | 11450 | 11700 | 8100 | 8400 | 2.25 | 2.35 | |

*-Возможна операция за наличный и безналичный расчет;
**-Операция проводится только по безналичному расчету;
***-Операция с СКВ свыше 1000$ производится на договорных условиях

## Почему мы пьем?

***В 1994 году в Минском наркологическом центре состояло на учете 27660 человек, больных алкоголизмом и наркоманией. Это на 4 тысячи больше, чем в 1991 году.***

"Увеличение числа заболевших, — считает врач центра Александр Мягко, — вызвано тем, что сейчас резко ослабла профилактическая работа среди населения. Даже наоборот — идет активная пропаганда в средствах массовой информации спиртных напитков. Другой причиной является то, что на крупных предприятиях ликвидировали фельдшерские пункты, которые раньше своевременно выявляли и доставляли в наркологический центр пьяниц. Несомненно, способствует росту числа выпивох и относительная дешевизна спиртного. Недаром в народе появилась новая поговорка: "На водку заработал, а на закуску — нет!"

**Николай ВАСИЛЕВСКИЙ.**

## Вернет ли суд Осинскому редакторское кресло?

***Вчера в народном суде Заводского района Минска начался судебный процесс по иску бывшего главного редактора газеты "Советская Белоруссия" Игоря Осинского о восстановлении на роботе. Ответчиками по делу названы Президент Беларуси и редакция газеты.***

Суду предстоит опросить десятки свидетелей. Материальных претензий истец не предъявлял.

**Юрий СОКОЛ.**

## Минское "Динамо" отпустило тормоза?

***В минувшие выходные прошли матчи 18-го тура чемпионата Беларуси по футболу.***

Вот их результаты: "Шахтер" — "Гомсельмаш" — 1:0, "Молодечно" — "Днепр" — 2:2, "Динамо"(Бр) — "Бобруйск" — 0:0, "Динамо"(Мн) — "Ведрич" — 3:2, "Торпедо"(Мг) — "Обувщик" — 1:1, "Неман" — "Динамо-93" — 0:0, "Локомотив" — "КИМ" — 1:1, "Торпедо"(Мн) — "Шинник" — 3:1.

Положение команд после 17-го тура

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КИМ | 18 | 10 | 8 | 0 | 26—5 | 28 |
| Динамо Мн | 18 | 10 | 6 | 2 | 40—17 | 26 |
| Динамо-93 | 18 | 10 | 5 | 3 | 34—13 | 25 |
| Торпедо Мн | 18 | 9 | 5 | 4 | 23—14 | 23 |
| Неман | 18 | 8 | 6 | 4 | 19—12 | 22 |
| Динамо Бр | 18 | 7 | 6 | 5 | 18—13 | 20 |
| Молодечно | 18 | 6 | 6 | 6 | 26—19 | 18 |
| Днепр | 18 | 6 | 6 | 6 | 22—20 | 18 |
| Бобруйск | 18 | 5 | 8 | 5 | 20—21 | 18 |
| Обувщик | 18 | 6 | 4 | 8 | 17—23 | 16 |
| Торпедо Мг | 18 | 4 | 7 | 7 | 16—18 | 15 |
| Шинник | 18 | 4 | 6 | 8 | 16—26 | 14 |
| Шахтер | 18 | 3 | 7 | 8 | 15—23 | 13 |
| Ведрич | 18 | 5 | 2 | 11 | 10—27 | 12 |
| Гомсельмаш | 18 | 4 | 4 | 10 | 13—30 | 12 |
| Локомотив | 18 | 3 | 2 | 13 | 12—46 | 8 |

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, РИД.

Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму па пытаннях, прапанаваных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, і мерах па яго забеспячэнню

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

1. Правесці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у нядзелю 14 мая 1995 года рэспубліканскі рэферэндум па важнейшых пытаннях дзяржаўнага і грамадскага жыцця, прапанаваных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

2. Прыняць да ведама, што Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь прапануюцца для ўключэння ў бюлетэнь для галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме наступныя пытанні і варыянты адказаў галасуючых:

2.1. Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?

"За" ці "супраць".

2.2. Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?

"За" ці "супраць".

2.3. Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?

"За" ці "супраць".

2.4. Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?

"За" ці "супраць".

У адпаведнасці з артыкуламі 1, 14, 39 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выносіць першае, другое і трэцяе пытанні на абавязковы рэспубліканскі рэферэндум, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым, мае абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а чацвёртае — для прыняцця кансультатыўнага рашэння, якое мае рэкамендацыйны характар.

3. Арганізацыю падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскага рэферэндуму ўскласці на Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

4. Устанавіць, што паўнамоцтвы абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх, раённых у гарадах, участковых камісій па рэферэндуму ажыццяўляюць адпаведныя тэрытарыяльныя і ўчастковыя камісіі па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў.

5. Выдачу бюлетэняў для галасавання па пытаннях, вынесеных на рэспубліканскі рэферэндум, праводзіць па спісах выбаршчыкаў, складзеных для правядзення выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

6. Улічваючы, што назначаны на 14 мая 1995 года рэспубліканскі рэферэндум будзе праводзіцца адначасова з выбарамі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, устанавіць, што прадугледжанае часткай восьмай артыкула 28 Закона "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" папярэдняе — за 15 дзён да рэферэндуму — галасаванне не праводзіцца.

7. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым Саветам дэпутатаў, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам забяспечыць у адпаведнасці з заканадаўствам аб рэферэндуме гарантыі свабоднага волевыяўлення грамадзян па пытаннях, якія выносяцца на рэферэндум, выключыўшы магчымасць аказання на грамадзян любога неправамернага ўздзеяння, што перашкаджае свабоднаму ажыццяўленню імі права ўдзелу ў рэферэндуме.

8. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у трохдзённы тэрмін вырашыць пытанні матэрыяльнага і фінансавага забеспячэння правядзення рэспубліканскага рэферэндуму, абслугоўвання яго прадпрыемствамі і арганізацыямі транспарту і сувязі.

9. Рэкамендаваць сродкам масавай інфармацыі арганізаваць усебаковае і аб'ектыўнае растлумачэнне сутнасці пытанняў, якія выносяцца на рэспубліканскі рэферэндум, рэгулярна асвятляць ход падрыхтоўкі і правядзення рэферэндуму.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

13 красавіка 1995 г., г.Мінск. № 3728-XII

## Няхай цёплаю стане вясна і светлымі будуць святы



Нават зацяжны дождж не спыніў мінскіх вернікаў у мінулую нядзелю, якія прыйшлі да храма, каб асвяціць галінкі вярбы. А каталікі ў гэты ж дзень святкавалі Вялікдзень.

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

Паведамленне

## Аб індэксе спажывецкіх цэн за сакавік 1995 года

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў сакавіку 1995 года ў параўнанні з лютым 1995 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 120 працэнтаў.

У параўнанні са снежнем 1994 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 2,2 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

## У Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь

Як паведаміла прэс-служба Кабінета Міністраў, у сувязі са святкаваннем у рэспубліцы 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў перанесці рабочы дзень з панядзелка 8 мая на суботу 6 мая 1995 года.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

# РЕШЕНИЕ
## Конституционного суда Республики Беларусь

### Об отказе в принятии к рассмотрению предложения Комиссии Верховного Совета Республики Беларусь по образованию, культуре и сохранению исторического наследия

Конституционный суд Республики Беларусь в составе председательствующего — председателя Конституционного суда Тихини В.Г., судей Василевича Г.А., Кеник К.И., Пастухова М.И., Середы Н.М., Тишкевича С.И., Фадеева В.А., Филипчик Р.И., рассмотрев в заседании суда материалы, поступившие из Комиссии Верховного Совета Республики Беларусь по образованию, культуре и сохранению исторического наследия,

установил:

Комиссия Верховного Совета Республики Беларусь по образованию, культуре и сохранению исторического наследия обратилась в Конституционный суд с просьбой рассмотреть вопрос о соответствии Конституции и действующему законодательству предложения Президента Республики Беларусь о проведении республиканского референдума по вопросу: "Согласны ли Вы с приданием русскому языку равного статуса с белорусским?"

В соответствии со статьей 127 Конституции Республики Беларусь и статьей 5 Закона "О Конституционном суде Республики Беларусь" Конституционный суд рассматривает дела и дает заключения:

о соответствии законов, международных договорных и иных обязательств Республики Беларусь Конституции, международно-правовым актам, ратифицированным Республикой Беларусь;

о соответствии правовых актов межгосударственных образований, в которые входит Республика Беларусь, указов Президента, постановлений Кабинета Министров, а также актов Верховного суда, Высшего хозяйственного суда, Генерального прокурора, имеющих нормативный характер, Конституции, законам и международно-правовым актам, ратифицированным Республикой Беларусь.

Из представленных комиссией материалов усматривается, что перед Конституционным судом ставится вопрос о проверке конституционности предложения Президента Республики Беларусь о проведении референдума по определенному вопросу, что в соответствии со статьей 127 Конституции Республики Беларусь и статьей 5 Закона "О Конституционном суде Республики Беларусь" не входит в компетенцию Конституционного суда.

На основании изложенного, руководствуясь статьей 49 Закона Республики Беларусь "О Конституционном суде Республики Беларусь", суд

**решил:**

Отказать Комиссии Верховного Совета Республики Беларусь по образованию, культуре и сохранению исторического наследия в рассмотрении вопроса о соответствии Конституции предложения Президента Республики Беларусь о проведении республиканского референдума по вопросу "Согласны ли Вы с приданием русскому языку равного статуса с белорусским?".

**Председательствующий — председатель Конституционного суда Республики Беларусь В.Г.Тихиня.**

г.Минск.
12 апреля 1995 года.

Горкая сенсацыя

# У жорнах віцебскага следства лёгка прызнацца нават у забойстве, якога не было

### "Прыслужнікі" д'ябла

Часта ў прыгаворах судовых калегій па крымінальных справах сустракаюцца страшныя словы аб вышэйшай меры пакарання — расстрэле. Толькі ў 1994 годзе да вышэйшай меры пакарання прыгавораны 24 падсудныя. Можа закрасціся думка: а ці не трапляюць у лік "смяротнікаў" невінаватыя? Дасведчаныя людзі ўспамінаюць так званую віцебскую справу, калі ў пошуках маньяка-забойцы Міхасевіча пацярпелі і выпадковыя людзі.

У 11 судовых працэсах па матэрыялах следчых былі асуджаны 14 невінаватых чалавек; адзін паспеў пабыць у няволі 10 гадоў; другі, пасля 6 гадоў няволі, поўнасцю аслеп і выпушчаны ў выніку як "не прадстаўляючы небяспекі"; трэці прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і пазбаўлены жыцця; чацвёрты спрабаваў пазбавіць сябе жыцця сам, але яго паспелі выцягнуць з пятлі. Быў суд над групай следчых, якія сфабрыкавалі "віцебскую справу".

У гэтай сумнай крымінальнай гісторыі, аб якой размова пойдзе ніжэй, ва ўчыненні двух забойстваў у час правядзення следства абвінавачваліся два чалавекі. Невінаватыя!..

Сапраўдны ж злачынца будзе прыгавораны пазней да выключнай меры...

❑

...У клетцы, за жалезнымі кратамі, у наручніках перад апошняй інстанцыяй — судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда ў складзе Уладзіміра Пташніка, Ільі Гогаля, Яўгена Смірнова — паўстаў 39-гадовы Мікалай Нікіцін. Нарадзіўся ў вёсцы Байцарава Гарадоцкага раёна. У Віцебску, куды пераехаў незадоўга да гэтага, правёў апошнія вольныя дні.

Нідзе не працаваў. Не меў пастаяннага месца жыхарства. П'янстваваў. Краў. "Сябраваў" з такімі, як і сам.

У клетцы ж ён быў пакорлівым. Не плакаў, не прасіў слёзна літасці.

Як загнаны звер, з блукаючымі ад страху вачыма, нізкарослы дзяцюк спрабаваў пераканаць высокі суд у тым, што забіў свае ахвяры абараняючыся... Відаць, спадзяваўся, што суддзі перакваліфікуюць ягонае злачынства на больш "мяккі" артыкул Крымінальнага кодэкса.

### Няўлоўныя здані ля Княжыц

...Звольніўшыся з Віцебскага камбіната хлебапрадуктаў, Мікалай Нікіцін пайшоў на больш "лёгкі" хлеб. Бадзяючыся па горадзе, знаёміўся з падазронымі асобамі, даверлівымі жанчынамі: пакормяць, напояць і спаць пакладуць. Чаго больш трэба валацугу? У сваю чаргу ён часам дапамагаў ім па гаспадарцы. Але ж доўга на чужой шыі не пратрымаешся, і тады Мікола ішоў красці. На дачных участках у Віцебскім раёне, ля вёскі Княжыцы, залазіў у домікі, у падвалы і выграбаў адтуль усё, што траплялася на вочы. Зразумела, дачнікі пачалі звяртацца ў міліцыю.

У матэрыялах мнагатомнай крымінальнай справы такіх заяў нямала. Органы міліцыі раёна не насцярожыла, што пастаянна ўчыняюцца крадзяжы ў адным і тым жа дачным пасёлку.

Бачачы такое патуранне з боку мясцовых пінкертонаў, Мікола "пашырыў" свае вылазкі і ў вёску. Неяк, праходзячы з двума новымі знаёмымі, раней судзімымі, ля дома грамадзяніна Л., заглянулі ў хляўчук. Цяжка нагружаныя, з чатырма бутэлькамі гарэлкі зладзеі накіраваліся ў Віцебск. Назаўтра на полацкім рынку ўдала збылі крадзенае. "Выручку" Нікіцін прапіў з чарговай сужыцелькай.

Чарговая заява ў Першамайскі райаддзел міліцыі Віцебска паступіла ад грамадзянкі Г. Тая паведаміла, што Нікіцін разам са сваёй новай знаёмай П. шляхам махлярства знялі з яе ашчаднай кніжкі 4 тысячы рублёў (па цэнах 1992 года).

Участковы ж інспектар В.Філееў адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, матывуючы тым, што злодзей прызнаў сваю віну і прычынены ўрон кампенсуе. Начальнік РАУС В.Азеуш зацвердзіў пастанову падначаленага.

Калі сужыцелька выгнала ашуканца з дому, той уладкаваўся ў чарговых выпадковых сабутэльнікаў. І працягваў красці. Не забыў Мікола і адну з былых сужыцелек: з яе дачы паблізу вёскі Княжыцы Віцебскага раёна сцягнуў тэлевізар, дзесяткі слоікаў з агароднінай, папсаваў маёмасць. На стале пакінуў запіску: "Засталося аднаму чалавеку адпомсціць... больш тут я не буду". (Пазней, пры расследаванні цяжкіх злачынстваў, эксперты-почырказнаўцы ўстановяць, што яна напісана Мікалаем Нікіціным. — **С.А.**)

### Першая ахвяра

Цыганка Ганна Бендаровіч на сваю бяду ўпадабала Міколу Нікіціна. І хоць была за яго старэйшая на сем гадоў, дала прытулак.

— Выгані ты яго, навошта п'яніцу трымаеш ля сябе, — папракалі яе родныя, суседзі.

— Ат, дзе яму, беднаму, дзецца, няхай па гаспадарцы дапамагае, — у адказ супакойвала больш сама сябе даверлівая жанчына.

Неяк а шаснаццатай гадзіне да цыганкі ў хату завітала суседка. Ужо цямнела. Калі шчоўкнуў выключальнік, у святле яна ўбачыла кватаранта, які насіў у падполле бульбу. Гаспадыня завіхалася ля печы.

— Вось, грошы табе прынесла, — звярнулася госця.

— Непісьменная я, пералічы, калі ласка, — папрасіла Бендаровіч.

Суседка налічыла 24 700 рублёў (падзеі адбываліся ў канцы 1992 года. — **С.А.**). Усё гэта бачыў кватарант. Госця заўважыла, што той неўпрыкмет прынёс у кухню сякеру і навясны замок. Не западозрыўшы нядобрага, яна пакінула дом.

— Дай мне тысячу рублёў, — звярнуўся Нікіцін да гаспадыні.

— Я з табой за ўсё разлічылася і грошай не дам. Зарабляй сам, як і мы, цыганы, — адмовіла кватаранту жанчына і працягвала абіраць бульбу. Заадно папярэдзіла: "Будзеш прыставаць, атрымаеш..."

Неўзабаве ў хату, на Лучэсу, да цыганкі Ганны (яна ж Нюша) заглянуў Уладзімір Пуцінцаў. Яму захацелася выпіць. У Бендаровіч ён рэгулярна купляў спіртное. Узамен прыносіў і прадаваў залатыя вырабы.

Уладзімір убачыў у хаце незнаёмага Нікіціна. Гаспадыня і пастаялец сварыліся. Тады Пуцінцаў заступіўся за жанчыну і ўдарыў яе крыўдзіцеля па твары. Мікола схапіў сякеру і кінуўся да Нюшы. Абух слізгануў па галаве, паказалася кроў. Пуцінцаў спужаўся ўзлаванага разбойніка і збег.

І тады Мікола, схапіўшы сякеру, некалькі разоў ударыў гаспадыню абухом па галаве. Акрываўленую ахвяру дабіваў з асаблівай жорсткасцю кулакамі. У забітай выцягнуў з кішэні халата кашалёк з грашыма, схапіў дублёнку, футравую шапку і іншыя каштоўнасці. На месцы злачынства забойца пакінуў свой акрываўлены світэр. Дзверы дома зачыніў на навясны замок і ўцёк.

Праз нейкі час, падпіўшы, Уладзімір Пуцінцаў вярнуўся на Лучэсу, да Нюшы. Хата была на замку. Назаўтра даведаўся, што цыганку забілі. Заяўляць не стаў, бо спужаўся, што суседзі бачылі яго ля дома ахвяры і могуць падумаць аб ім як аб забойцу.

### Самасуд: цыганскі ці міліцыі?

Па факту забойства Ганны Бендаровіч была ўзбуджана крымінальная справа, а праз два тыдні па падазрэнню ва ўчыненні гэтага злачынства быў затрыманы Уладзімір Пуцінцаў. Яго змясцілі ў спецпрыёмнік (!) райаддзела міліцыі Першамайскага раёна г.Віцебска. Пасля "апрацоўкі" ў першы ж дзень ён... прызнаўся ў забойстве.

"Раскрылі злачынцу" супрацоўнікі крымінальнага вышуку райаддзела Яленскі, Мыслейка, Ісмаілаў. Як гэта рабілася, раскажа ён пазней, на допыце ў пракуратуры, калі звернецца з заявай аб прымяненні да яго недазволеных метадаў следства.

**Уладзімір Пуцінцаў:**

**— Работнікі міліцыі затрымалі і змясцілі на 3 дні ў спецпрыёмнік. Кожны дзень прывозілі ў Першамайскі райаддзел і збівалі (Яленскі, Мыслейка, Ісмаілаў). У першы дзень білі з 18 да 24 гадзін. Паставілі ў кабінеце Яленскага да сцяны, надзелі наручнікі. Прымусілі падняць рукі, стаць на дыбачкі. Зверху правялі рысу. Калі я апускаў рукі ніжэй, мяне адразу ж білі. Ісмаілаў наносіў удар кулаком ці нагой па нырках. Колькі білі з Яленскім, не памятаю.**

**Ісмаілаў патрабаваў, каб даў паказанні, што забіў Бендаровіч. Я адмаўляўся.**

**Тады Яленскі зрабіў мне два ўколы. Пасля гэтага пачала кружыцца галава. Адчуў сябе дрэнна, стаў абыякавым да ўсяго.**

**Каля 24-й гадзіны ночы прызнаўся ім, што гэта я забіў, бо не мог ужо трываць здзекаў.**

**— Як ты забіў Бендаровіч? — спыталі мяне. — Задавіў.**

**Пачуўшы адказ, следчыя крымінальнага вышуку Яленскі і Ісмаілаў зноў пачалі біць. Я ўпаў. І тады Ісмаілаў двойчы ўдарыў ляжачага па целе. Затым пасадзілі на крэсла і запатрабавалі прызнацца ў забойстве. Зайшоў у кабінет Мыслейка. Атрымаўшы адмоўны адказ, стукнуў кулаком у бок, затым сагнуў і грудзямі ўдарыў аб сваё калена.**

(Заканчэнне на 2-й стар.)

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Житейская история

# Напрасно старушка ждет сыну жилье...

Трубку на другом конце провода подняли с первого звонка. Звонкий мужской голос четко произнес:

— Мать уехала в город и закрыла хату на замок. Ключ найдете в погребе, открывайте дверь и заходите в левую половину. Меня, лежачего, сразу заметите.

И вот я стою на пороге чужого дома, озираясь в пропахшей больше несъедобными, чем съедобными, запахами комнате. Инвалидная коляска в углу, у стены разложенный диван, рядом два ведра... Подтянувшись в постели на непослушных ногах, бледный молодой человек поворачивается на звук, нашаривает у изголовья помятые листы и торопливо протягивает их мне. Вещдок смиренной надежды — челобитные с официальными ответами на них. Господи, хорошо, хоть в твою небесную канцелярию апеллируют устно. По крайней мере, подручным не приходится ломать перья над такими формулировками: "Вы лічыцеся на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у Бараўлянскім сельскім Савеце народных дэпутатаў з 4.05.93 г. на агульнай чарзе і на льготнай. У цяперашні час забяспечыць вас добраўпарадкаванай кватэрай не прадстаўляецца магчымым з-за адсутнасці свабоднай жылой плошчы ў распараджэнні выканкама".

## Сын

— В Беларусь мы с мамой переехали восемь лет назад. Продали дом в Крыму и переселились сюда. Родня позвала: мол, на исторической родине будет лучше. Мать у меня родом из Березинского района, а отец русский. Тем более что к тому времени я начал болеть. Врачи определили рассеянный склероз и шизофрению. Правда, когда три года назад меня приковало к постели, нужен стал только матери. Она и тащит меня на своем горбу. Что? Да, в буквальном смысле: мама горбатенькая. В детстве играла, упала с доски и повредила позвоночник. Причем, знаете, как вышло? Привезли ее к местному фельдшеру с температурой, он и определил простуду. Полтора года лежала на печке. Потом бабушка повезла ее к другому врачу. Тот только чертыхнулся и предложил операцию. Но без гарантии: сердечко может не выдержать. Бабушка заплакала и увезла маму обратно.

Как мать очутилась в Крыму? Поехала вместе с молодежью — тогда же модно было — на комсомольскую стройку Белоярской атомной станции. Там познакомилась с отцом. Она с ним не расписывалась, просто так жили. Потом из-за моей астмы перебрались в Старый Крым. Если вы в курсе, это родина Александра Грина. Я, когда по санаторным школам-интернатам болтался — все из-за астмы, — все школьные библиотеки перечитал. Потом отец умер, и мы с матерью ютились по разным деревянным сарайчикам. Нет, приличной квартиры там у нас тоже не было.

Как вышло, что я прописан в Минском районе, а живу с матерью в Смолевичском? Да так и вышло. По принципу — чужая душа потемки... Главное, что прописан с 1987 года в доме, где хозяйка платит за свет и газ без всяких льгот. А на очередь на государственную квартиру встал в мае 1989 года. Если мне не хотят ее давать, пусть выделяют ссуду на строительство дома и землю. Не мне лично, я шизофреник и не имею права распоряжаться деньгами, а солидной организации, которая построит мне дом. Что, не верите? Не думайте, у меня хорошие связи и знакомства. Найдутся нужные люди — были бы деньги. Я много чего в жизни повидал. У меня три года трудового стажа: и дояром работал, и слесарем по ремонту бытовой техники. Пожил когда-то и погрешил...

— Ну, значит, будет что вспоминать. Особенно если грешки любовные.

— А, любовь... Да, я был женат. Да, уже после того, как врачи поставили мне оба диагноза. Но потом решил благородно с ней расстаться. Хотя в суд на развод подала она. Попросилась рожать у своих родителей, я ее отпустил — разве ж откажешь беременной женщине? А потом, когда лежал в больнице, получил от нее поздравление с Новым годом и пожелание найти новую любовь. Что? Да, есть сын, которого я ни разу не видел. И ему незачем меня видеть. Лучше я заочно буду ему помогать, чем смогу. Поэтому из своей инвалидной пенсии плачу алименты.

Чем занимаюсь целыми днями? Нет, газет не читаю — от них болит голова. Только "Аргументы и факты" просматриваю. Телевизор не смотрю — надоел. Вот музыку слушаю. В больницу тоже не прошусь. Кто помогает? Птичник бесплатное паровое отопление провел. Красный Крест мочесборник и калоприемник выделил. Ассоциация больных рассеянным склерозом коляску и телевизор по льготной цене привезла. Почему сложена? Матери тяжело ее выкатывать. А разве помыть меня легко? Пока воды нагреет. Пока дотащит в кухню меня на простыне. Да вы подождите — скоро она сама из города вернется.

## Мать

Завидев с дороги стоящую у дома редакционную "Волгу" — о, велик в нашем народе инстинкт на начальственные символы, — маленькая женщина кинулась бегом к нам. Запыхавшись, открыла замок, затараторила скороговоркой:

— Просил меня в городе кока-колы бутылочку купить, а я три тысячи пожалела. Зато молочка ему беру через день три литра на дому — ну как больному откажу? И тортик с фруктами часто покупаю. Недавно Красный Крест 30 тысяч помощи дал — я на все и купила апельсинов.

— Здоровье у меня уже не то стало. Что в город ездить, что воды из колодца принести. Как нас обидели, он уже рассказал? Ой, как нас обидели! У меня в Крыму 17 тысяч денег было, я все распродала: и полдома, и холодильник, чтоб сюда вернуться. А как родина меня приняла? Вот этими купленными стенами. Я в 12 лет помогала маме раненых перевязывать — все вечера на корточках. Маленькой по 20 километров телеграммы разносила: кому радость, а кому похоронку. А я ж инвалид с семи годков, полгода парализованная лежала. Не успели красные нас освободить — плуг на себе таскала. В инвалидной артели в Борисове работала. А что у государства заработала? 126 тысяч пенсии? Теперь, правда, немножко добавили. За то, что инвалид с детства и нуждаюсь в постороннем уходе.

— Хватит, мать, жаловаться — перебивает материнский монолог Владимир. — Ты лучше гостей покорми. Про тех, кто помогает, расскажи. Комбикормовый завод подсобил, на пилораме горбыля бесплатно выписали, птичник обогрел.

— Я добрым людям за это благодарность в газетке тиснула. Поехала и попросила напечатать объявление: вдруг найдутся спонсоры, чтоб семья инвалидов зиму перезимовала. Мне знакомая и подсказала: а ты на птицефабрику обратись, там начальство хорошее. Точно, приехали со сварочным аппаратом, целый день работали и денег с бабушки не взяли.

Анна Федоровна смахивает с глаз внезапно выступившие слезы:

— Но квартира нам с сыночком все равно нужна. Он же у меня всю зиму некупанный. Родня меня который раз зовет помыться, а я не могу: не лежит душа, если он грязный. Я уже так думала: помрет он первый — я на старости лет в городе поживу. А если я первой туда отправлюсь, может, найдется добрая душа — ради квартиры с удобствами будет за ним ухаживать. Да, предлагали нам переселиться в дом-интернат. И комнату там выделяли. Так, знаете, что он мне сказал? "Я тут проснусь, выгляну в окно — солнце. И это мое солнце. Ночью выгляну — звезды, и тоже мои. А там все будет казенное".

— А хотите, расскажу, как ко мне "вертикаль" приезжала? — мать Володи вновь оживляется. — Я ж уже где только не побывала, в какие кабинеты не совалась, на прием к Президенту записалась. На него одна надежда. ...Сидим, значит, мы с сыном, тут на порог заявляется все районное начальство и кто-то из Минска. Показывай, мол, свое жилье, бабушка, и обо всем рассказывай. Стала я про квартиру говорить. Чтоб с ванной и туалетом: в такую хоть раком смогу его дотащить. Вдруг начальник милиции выходит в соседнюю комнату, где у меня фляга стоит. Сами ж понимаете, огород я сама не вспашу, людей прошу, а за это рассчитаться надо. Поэтому и зелень вожу на базар, и землю дачникам сдаю. Ну и стал он меня этой флягой упрекать: не такая я, мол, идеальная, раз самогонку гоню. И такое меня зло разобрало, что я на крик перешла. Убирайтесь, говорю, не нужна мне такая "вертикаль" и помощь. Еще и он с постели поднялся, палку в руку схватил, замахнулся на них и тоже кричит: уходите, пока вам по рогам не стукнул. Тогда председатель райисполкома тихонько начальника милиции под руки взял и во двор вывел. А что, разве я неправа была? Раз они такие нахальные, то и я наглая буду. Вы ж поставьте себя на мое место...

Ставить себя на ее место мне не хотелось. По многим причинам. А вот с соседями-односельчанами поговорить требовалось.

## Соседи

Анжелу, главную обидчицу Анны Федоровны, я представляла тощей, злобной мегерой, а навстречу вышла румяная дородная молодица с добродушным лицом:

— Побила, говорите, я горбатую? Не-а, не догнала, утекла она от меня. А дать однажды точно хотела. За что? А чего старшую дочку мою настраивает, чтоб не называла отчима папой. Не ее дело, что мы нерасписанные живем. Она сама так сына завела. И как же не захочется ей дать, если мужика моего зазовет, самогонки продаст, а мне потом разбирайся. За эту проклятую самогонку ей окно и разбила. Забор с ее земли, так и быть, уберем. А вообще, вредная она баба. На одном конце деревни вначале жила, ни с кем не ладила, теперь тут со всеми перебрехалась. Если б не ее характер, разве ж мы ей не помогли б? Не такие уж мы бессердечные. И коляску б на улицу вытащили, и Володю прогуляли. Но она сама его не жалеет. Постоянно в город мотается что-то продавать. Вся деревня знает: нальет ему бутылочку, чтоб не скучал, и поехала. Думаете, зачем ей квартира нужна? Сама ж по деревне хвасталась: когда Лукашенко даст квартиру, здесь сделаю дачу, землю сдам горожанам, а сама заживу в городе.

Анна Егоровна, Василий Васильевич. Аккуратненькие старички-пенсионеры, в чей опрятный дом вместе с редакционным водителем мы зашли наугад в поисках "третейских судей":

— Не хотелось бы сор по деревне разносить, но если для газеты надо... Горбатая всем далась. Злая она сильно. Муж мой — инвалид Великой Отечественной, чуть ходит, слабенький, а она его однажды полицаем обозвала. Все ей обиды мерещатся: то наши козы помешали ее овечкам, то еще что. Сама калека, и за сыном догляд нужен, а носится как подстреленная. Постоянно в городе спекулирует. Если сил нет, телевизорами торговать не будешь...

## Официальные лица

Николай Тимофеевич, председатель сельсовета, на территории которого живут мать и сын, встретил меня с легкой растерянностью:

— Если честно, я лишь третий день в этой должности работаю: может, слышали, предшественника моего убили. Но бабку эту знаю. Она сегодня у меня с утра побывала, жаловалась на соседей. Посоветовал ей написать заявление или в нашу административную комиссию, или в милицию. Был бы служебный транспорт, подъехал бы на место. Только не всегда поможешь, когда соседи скандалят. Правда, я и раньше про бабусю слыхал, работая бригадиром в хозяйстве, на территории которого расположена бабкина деревня. Может, и сам в старости таким стану, но у бабушки характер не мед. Чуть что: я инвалид, мне полагается. Никаких объяснений слушать не хочет. Понимаю, конечно, что ее судьба обидела...

Ирина Анатольевна, заведующая квартирным отделом райисполкома, на территории которого прописан Владимир:

— Давайте уточню для начала: Владимир стоит 55-м в льготной очереди и 326-м в общей. Это значит, что на ближайшие 5—6 лет никаких реальных перспектив с квартирой. По очень простой причине: перед ним стоят в льготном списке такие же, как он, инвалиды, а также многодетные семьи, матери-одиночки. Пофамильно перечислять? Г.Зеневич, В.Федорова — инвалиды II группы, М.Суботко — мать троих детей, один из которых инвалид с детства... Поверьте, никого неправедного перед ним в списке нет, объединение очередников, на которое мать с сыном ссылаются, мы тоже проводили на законных основаниях. Ну и как в обход остальных мы дадим ему квартиру? Тем более что госжилья нынче строится очень мало, а прописаться и стать на очередь он умудрился именно в том из 19 сельских Советов, где больше всего желающих получить государственную квартиру.

## Вместо авторского комментария

*Напоследок я связалась с представителями Ассоциации больных рассеянным склерозом, которая ходатайствовала перед властями о выделении Володе квартиры. От милых и обходительных ее членов (объединены здесь люди, страдающие этим недугом) получила разъяснение, чем чревата данная болезнь. Нагнетать страсти не собираюсь — роковых прогнозов никто не давал. Хотя приятного в таком состоянии тоже ничего нет. Имена и отчества в этой истории я сохраняю настоящие, фамилии же и место действия конкретизировать не буду. Официальным лицам достанет сообразительности "вычислить" фигуры умолчания. Те же, кто захочет чем-нибудь помочь, смогут найти адрес матери и сына в редакции.*

**Людмила СЕЛИЦКАЯ.**

ЦІКАВАЕ ЗНАЁМСТВА

# Свет мастака



**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ,**
**фота аўтара**

Творчасць Вячаслава Паўлаўца — з'ява ў беларускім мастацтве цікавая і не зусім звычайная. На працягу некалькіх гадоў мастак пісаў акварэльныя аркушы, дзе імкнуўся перадаць рамантычныя ўражанні ад родных краявідаў.

— Але наступіў такі час, — кажа Вячаслаў, — калі мне захацелася стварыць менавіта сваё, асабістае. Добра памятаю дзень майго трыццацітрохгоддзя. Я прыйшоў у майстэрню і, можна сказаць, за лічаныя хвіліны стварыў нешта для сябе незвычайнае, што рэалістычным палатном ніяк не назавеш.

У той дзень і нарадзілася новая плынь у творчасці Вячаслава. Затым з'явіўся цэлы цыкл твораў, у якіх — спалучэнне мадэрнісцкага і рэалістычнага. Атрымаўся новы стыль, які сам мастак называе "абстрактным імпрэсіянізмам".

Увогуле Вячаслаў Паўлавец працуе шмат, плённа. Акрамя абавязкаў мастацкага рэдактара часопіса "Мастацтва" нямала часу аддае вольнай творчасці. Тры вялікія мастацкія цыклы "Рэальнасць нерэальнасці", "Рух падсвядомасці", "Рэха ўспамінаў", якія экспанаваліся на розных выставах Беларусі і за мяжой, атрымалі прызнанне гледачоў і спецыялістаў.

Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Далгалёва В.Б.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У адпаведнасці з часткай другой артыкула 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і часткай пятай артыкула 32 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Рагачоўскай гарадской выбарчай акругі N 229 Гомельскай вобласці **Далгалёва** Васіля Барысавіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

10 красавіка 1995 г., г.Мінск.
№ 3698-XII

### Аб вызваленні Кузняцова В.М. ад абавязкаў першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і аб датэрміновым спыненні яго дэпутацкіх паўнамоцтваў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Вызваліць **Кузняцова** Вячаслава Мікалаевіча ад абавязкаў першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у сувязі з назначэннем яго Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Кітайскую Народную Рэспубліку і яго асабістай заявай.

2. У адпаведнасці з артыкулам 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Кальцоўскай выбарчай акругі N 34 г.Мінска Кузняцова Вячаслава Мікалаевіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

10 красавіка 1995 г., г.Мінск.
№ 3695-XII

Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Піцухі В.І.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

У сувязі з назначэннем дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Піцухі** Валерыя Іванавіча старшынёй Столінскага раённага выканаўчага камітэта Брэсцкай вобласці і ў адпаведнасці з артыкулам 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Рэчыцкай выбарчай акругі N 140 Брэсцкай вобласці Піцухі Валерыя Іванавіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

10 красавіка 1995 г., г.Мінск. № 3702-XII

### Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сечкі Л.Н.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У адпаведнасці з часткай другой артыкула 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і часткай пятай артыкула 32 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" і яго асабістай заявай лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гомельскай-Цэнтральнай выбарчай акругі N 198 Гомельскай вобласці **Сечкі** Леаніда Ніканоравіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

10 красавіка 1995 г., г.Мінск. № 3701-XII

### Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шаўцова У.М.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

У адпаведнасці з часткай другой артыкула 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і часткай пятай артыкула 32 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Мазырскай сельскай выбарчай акругі N 221 Гомельскай вобласці **Шаўцова** Уладзіміра Міхайлавіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

10 красавіка 1995 г., г.Мінск. № 3700-XII

### Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Герасіменкі А.М.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У сувязі з назначэннем дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Герасіменкі** Аляксандра Міхайлавіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Рэспубліку Балгарыя і ў адпаведнасці з артыкулам 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Сцяпянскай выбарчай акругі N 25 г.Мінска Герасіменкі Аляксандра Міхайлавіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

10 красавіка 1995 г., г.Мінск. № 3696-XII



Горкая сенсацыя

# У жорнах віцебскага следства лёгка прызнацца нават у забойстве, якога не было

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**Я пачаў прасіцца, каб адпусцілі, за ноч, маўляў, падумаю. Толькі тады зноў адвезлі ў спецпрыёмнік.**

**...Дарэчы, калі затрымлівалі мяне, а з кватэры забіраў Мыслейка, дык, падвёзшы да дому забітай Бендаровіч, ён сказаў:**

**— Прызнавайся ў забойстве, а не — дык завязу на цыганскі самасуд.**

**На другі дзень білі ў прысутнасці следчага пракуратуры Першамайскага раёна Т.Платонавай. Зразумела, каб следчы растлумачыла яму правы на абарону з моманту затрымання, такога дзікага абыходжання з законам не адбылося б.**

... У калідоры райаддзела "ахвяру", паводле слоў Пуцінцава, аддалі на самасуд цыгану. Той збіваў кулакамі. Калі ахвяра вырвалася з будынка, на вуліцы яго затрымалі міліцэйскія. Зноў завялі ў кабінет, кінулі ў куток, і ўжо ўчатырох пачалі біць нагамі. Цыган азвярэў, яго ледзь адцягнулі.

Пратрымалі Пуцінцава ў спецпрыёмніку і, не папрасіўшы прабачэння за здзекі, выпусцілі. Значна пазней пракурор Чыгуначнага раёна г.Віцебска Н.Кашпар інфармаваў намесніка пракурора Віцебскай вобласці В.Жыгаленка аб тым, што У.Пуцінцаў даваў свае паказанні пад уздзеяннем фізічнага насілля з боку работнікаў аддзела крымінальнага вышуку Першамайскага РАУС. Аднак заяву Пуцінцава належным чынам не праверылі.

## Забіў за... катлету

У пачатку снежня 1992 года, пасля ўчыненага забойства, стомлены ад недаядання Нікіцін выпаўз са свайго патайнога сховішча, на гарышчы аднаго з дамоў. Крадзеныя харчы скончыліся. Ды і страх ад магчымай расплаты за злачынства трэба было нейкім чынам заліць гарэлкай. Насцярожана азіраючыся, пацягнуўся ў горад, да крамы. Пазнаёміўся з новымі сабутэльнікамі. Яго, на дзіва, усе шкадавалі, давалі прытулак. Тым больш гаспадарам сеё-тое перападала: Мікола зноў зрабіў некалькі ўдалых "рэйдаў" па дачах грамадзян.

Неяк ён пазнаёміўся з 65-гадовым Паўлам Шалонькам. Мужчыны "сцямілі" на дваіх, распілі бутэльку-другую гарэлкі. Мікола чымсьці спадабаўся пенсіянеру, і той прапанаваў пасяліцца ў яго хаце.

П'яныя застоллі працягваліся ўжо ў Шалонькі. Валацуга-забойца прыносіў яму крадзенае, разам жа і прапівалі яго. У чарговы раз Нікіцін прыйшоў да гаспадара паесці і пераначаваць. Праўда, з пустымі рукамі. А Шалонька ў гэты час еў смачныя катлеты. Госць пацягнуўся да патэльні. Гаспадар разззлаваўся:

— Нічога не прыносіш, п'яны бадзяешся. Вон з хаты!

— Дай паесці! — папрасіў азлоблены ад голаду Нікіцін, калі ўбачыў, што гаспадар закрыў ад яго патэльню.

Не дачакаўшыся дазволу сесці за стол, Мікола паспрабаваў схапіць з патэльні катлету, але гаспадар яго рэзка адштурхнуў. Тады Нікіцін схапіў прас, які стаяў на стале, ударыў пенсіянера-інваліда па галаве...

Пасля забойства Нікіцін збег.

Хутка сусед па кватэры Уладзімір Лонь пачуў з пакоя Шалонькі непрыемны трупны пах і паведаміў аб гэтым у міліцыю.

Аднак для заявіцеля справа абярнулася сумна. 10 снежня 1992 года па падазрэнню ва ўчыненні злачынства У.Лонь быў затрыманы і хутка з санкцыі пракурора Першамайскага раёна г.Віцебска ўзяты пад варту. Супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа па абвінавачванню ў наўмысным забойстве.

На допыце ў старшага следчага пракуратуры Першамайскага раёна г.Віцебска Т.Платонавай падазроны Уладзімір Лонь таксама прызнаўся... у забойстве на падставе непрыязных адносін: у час спрэчкі, маўляў, некалькі разоў ударыў Паўла Шалоньку малатком па галаве, ад чаго, магчыма, той памёр.

Праз дзень на чарговым допыцё ён прызнаўся, што ўдарыў нападаўшага на яго з нажом суседа баронячыся, але не малатком, а сякерай. Прадмет злачынства, маўляў, выкінуў у кантэйнер са смеццем. (Пры даглядзе з удзелам панятых сякеру не знайшлі — **С.А.**) У гэтым жа ён прызнаўся і пракурору Першамайскага раёна В.Пранніку ў памяшканні райаддзела міліцыі. Дарэчы, па ўказанню той жа Платонавай ён незаконна 6 дзён замест следчага ізалятара ўтрымліваўся ў прыёмніку-размеркавальніку.

Хутка была вынесена пастанова аб прыцягненні яго ў якасці абвінавачванага. Тэрмін утрымання пад вартай прадоўжылі да трох месяцаў. Між тым Уладзімір Лонь ад сваіх ранейшых паказанняў адмовіўся і заявіў, што даў іх у першыя дні затрымання пад фізічным уздзеяннем работнікаў міліцыі. Зноў чалавека жорстка білі тыя, хто павінен яго абараняць!

Аднак памочнік пракурора Першамайскага раёна г.Віцебска С.Зайцаў па заяве У.Ф.Лоня адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Следства працягвалася. Памочнік пракурора вынес пастанову аб правядзенні псіхіятрычнай экспертызы ў адносінах У.Лоня. Яго змясцілі ў Віцебскі псіханеўралагічны дыспансер.

## Папаўся на курах

Мікалай Нікіцін, асабліва небяспечны злачынца, забойца двух чалавек, 19 сакавіка 1993 года трапіў у засаду, калі нёс у сумцы курыцу і пеўня. Злодзея здалі ў міліцыю.

— Анатоль Трыфанаў, з вёскі Стайкі Гарадоцкага раёна,— прадставіўся ён дапытлівым ахоўнікам правапарадку выдуманым прозвішчам, ведаючы, што яго шукаюць.

Калі ж дакументаў у яго не знайшлі, дык за бадзяжніцтва змясцілі ў прыёмнік-размеркавальнік.

Перапужаны Нікіцін у першыя ж дні нечакана прызнаецца ва ўсіх зямных грахах, у тым ліку і ў двух забойствах.

Напісаўшы яўку з павіннай, расказвае аб дэталях, абставінах учынення злачынстваў, апісвае рэчавыя доказы, сапраўдныя прадметы забойства.

Усё сыходзіцца. Ашуканец, злодзей, забойца гаварыў праўду...

"Не можа быць такога, не ўкладваецца ў галаве, — відаць, разважалі мудрыя следчыя.— Пальцам не кранулі, а валацуга на сябе бярэ расстрэльны артыкул Крымінальнага кодэкса".

## Два вязні: забойца і сусед ахвяры

І хоць было дакладна вядома, што забойства Паўла Шалонькі ўчыніў Мікола Нікіцін, Уладзімір Лонь незаконна ўтрымліваўся пад вартай з 10 снежня 1992 года да 29 сакавіка 1993 года. Вызваляючы яго з-пад варты, змянілі меру стрымання на... падпіску аб нявыездзе, хоць ён дачынення да забойства не меў. І толькі... праз год, 10 снежня 1993 года, у адносінах да яго была спынена крымінальная справа і адменена мера стрымання.

Чытаеш дакументы па "справе Лоня", знаёмішся з вывадамі экспертаў і яшчэ раз задаеш пытанне: няўжо такое магло здарыцца? Няўжо не насцярожыла следчых супярэчнасць "чыстасардэчных" прызнанняў незаконна абвінавачванага і паказанняў сведак?

Каб атрымаць патрэбныя паказанні ад Лоня, следчыя выкарысталі добра вядомы злачынны прыём — "падкінулі" неабвержаны "доказ" дачынення да забойства.

У пакоі Лоня "знайшлі" сляды крыві. Судмедэксперты ўстанавілі, што гэта кроў чалавека, паходжанне якой можа быць і ад забітага Шалонькі. (Але ж і адназначна яны далі заключэнне, што Лоню плямы крыві на рэчавых доказах не належаць, а на малатку кроў не знойдзена. — **С.А.**).

Тым не менш гэта з'явілася адной з падстаў, каб затрымаць Лоня па падазрэнню ў забойстве.

Як жа рэабілітавалі сябе перад чалавекам, з якога знялі ўсе падазрэнні і абвінавачванні ў забойстве, тыя, хто настойліва даказваў яго віну? Можа, выпускаючы на волю ці мяняючы меру стрымання, папрасілі прабачэння?

Лёгкім спалохам адкруціліся ад адказнасці за здзекі з людзей, за катаванні.

Гутару з суддзёй Вярхоўнага суда Беларусі Ільёй Гогалем, які быў дакладчыкам у судовай калегіі пры разглядзе касацыйных скаргаў асуджанага Міколы Нікіціна і яго адвакатаў.

— Ілья Пятровіч, як такое магло адбыцца, што ва ўчыненні двух цяжкіх злачынстваў абвінавачваліся невінаватыя людзі? А ці не магло здарыцца, што "ў клетцы" перад вышэйшай судовай інстанцыяй маглі паўстаць і яны?

— Мы вынеслі прыватнае вызначэнне і давялі да ведама Генеральнага пракурора і міністра ўнутраных спраў Беларусі аб фактах грубага парушэння законнасці ў час расследавання абставін забойстваў двух грамадзян. Аб гэтым праінфармавалі Прэзідэнта рэспублікі. Душа ўзрушана і цяпер... Што ж гэта за дзяржава, якая па Канстытуцыі быццам бы выступае гарантам свабоды, недатыкальнасці і годнасці асобы, а на справе... Прэзумпцыя невінаватасці, вядома, прадэкларавана, але...

Так, псіхіка чалавека, які трапіў пад жорны следства, фактычна бездапаможна, і любы нядобрасумленны следчы самымі рознымі "хітрымі" прыёмамі можа ўчыніць над ёй насілле.

Нядаўна пленум Вярхоўнага суда Беларусі, вывучыўшы судовую практыку па справах, звязаных з наўмыснымі забойствамі, запатрабаваў павысіць адказнасць судоў да вытворчасці папярэдняга следства. Пры яго непаўнаце, калі нельга яго папоўніць у судовым пасяджэнні, рэкамендавана накіроўваць справы на дадатковае даследаванне.

Судовая калегія, напрыклад, пры разглядзе вышэйпамянёнай справы, палічыла, што ў адносінах да работнікаў міліцыі Першамайскага раёна г.Віцебска, якія дапусцілі парушэнні законнасці, павінна быць праведзена расследаванне.

...Чарговы раз "пракручваю" ў памяці сумную крымінальную гісторыю і міжволі задаю яшчэ раз сабе пытанне: няўжо тут, у Віцебску, пасля гучна нашумелага працэсу, пасля суда над тымі, хто выбіваў з падследных "прызнанні", праз дзесяць гадоў прадоўжылі тое ж самае?

**P.S.** *Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, паступіла рэагаванне на прыватнае вызначэнне судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда ў адрас Генеральнага пракурора ад... намесніка пракурора Віцебскай вобласці Н.Шахметава. Паведамлялася, што " ў працэсе следчых дзеянняў У.Пуцінцаў прэтэнзій і скарг на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі не выказваў, што ён іх агаварыў і яны ніякага насілля да яго не прымянялі. ... У працэсе следства довады Лоня У. аб прымяненні да яго фізічнага насілля і псіхічнага ўздзеяння свайго пацвярджэння не знайшлі... Крымінальныя справы, узбуджаныя па ч.2 артыкула 167 КК РБ, спынены за адсутнасцю ўказанага саставу злачынства ў дзеяннях супрацоўнікаў Першамайскага РАУС Яленскага В., Мыслейкі В., Ісмаілава З., Мангалева В., Шайтара С. і старшага следчага пракуратуры раёна Платонавай Т."*

*Словам, "выцерлі", вобразна кажучы, ногі аб судовы дакумент і справу закрылі.*

*Ну якія пасля такога цынічнага адказу патрэбны каментарыі?..*

**Славамір АНТАНОВІЧ,**
**прэс-сакратар Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь.**

